


Нарэшце зіма прынесла з сабою мароз. Ці ўсе падумалі пра тое, каб зрабіць каток?
Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 52 (1168) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 30.XII.1979 г.

**А. ДЗЕРУЖЫНСКІ**



## ПЕРШЫ СНЕГ

*Лыжа ліжа першы снег,
На лыжні — вясёлы смех,
Шчокі ружавеюць —
Лыжы хлопцаў грэюць.*

*Там на саначках з гары
Пакаціліся сябры,
Шчокі ружавеюць —
Санкі хлопцаў грэюць.*

*Колькі радасці і ўцех
Нам прыносіць першы снег.
Шчокі ружавеюць —
Іх сняжынкі грэюць.*

## СНЯЖЫНКІ

*Закружыліся сняжынкі
Нізка, нізка
Над зямлёй.
Ціха лётаюць пушынкі
Незлічонай чарадой.*

*Быццам тыя матылёчкі,
Весяляцца нездарма —
Адамкнула ўсе замочкі
Ў небе ім сама зіма.*

## САНІ

*— Хто вас гоніць
З горкі, сані?
— Ды ніхто,
Бяжым мы самі.
— А чаго вам
Так спяшацца?
— Трэба ж Вовачку
Катацца!*

## ЗАПРАШЭННЕ

*Зранку вецер зябкі
Студзіць птушкам лапкі.
А мяцеліца мяце...
Што вы, птушкі, ясце?*

*Мы вам зробім, птушкі,
Новыя кармушкі.
Прылятайце —
Кожны раз
Папалуднуеце ў нас.*

## БЕЛЯЧОК

*— Чаму,
Зайка шэранькі,
Стаў зімой ты
Беленькі?*

*— Гэта я
Зрабіў знарок,
Каб прыблуда —
Злосны воўк
Не адрозніў
Ад сняжка
Мяне,
Зайку-белячка.*



# ЧЫТАЕМ і пішам

Тут мой столік і буквар. За сталом я гаспадар. Малявалі ўгора зорку, мне паставілі пяцёрку.

Каля школы крык і смех.
Снег, снег, снег!
Ён прысыпаў сцежкі.
Паляцелі снежкі.

Птушкі, птушкі!
Ляціце да кармушкі,
ляціце пад акно! Тут
вам крошкі і пшано.



*Я. Пярмяк*

## ЧАРОЎНЫЯ ФАРБЫ

Адзін раз у сто гадоў, у ноч пад Новы год, самы лепшы з найлепшых дзядуляў, Дзед Мароз, прыносіць сем чароўных фарбак. Гэтымі фарбкамі можна намаляваць усё, што захочаш, і намалёванае ажыве.

Хочаш — намалюй статак кароў і потым пасі іх. Хочаш — намалюй карабель і плыві на ім. Або ракету — і ляці да зорак. А калі табе трэба намаляваць што-небудзь прасцейшае, напрыклад, крэсла, — калі ласка. Намалюй і садзіся на яго.

Гэтыя фарбкі Дзед Мароз прыносіць найлепшаму з усіх добрых дзяцей. І гэта зразумела. Калі такія фарбкі трапяць у рукі кепскаму хлопчыку або дрэннай дзяўчынцы, яны могуць нарабіць шмат бяды. Дамалююць чалавеку другі нос, і будзе чалавек двуносы. Дамалююць сабаку рогі, курыцы вусы, а кату — горб, і будзе сабака рагаты, курыца — вусатай, а кот гарбаты.

Таму Дзед Мароз вельмі доўга выбірае, каму з дзяцей падарыць чароўныя фарбкі.

Апошні раз ён падарыў іх аднаму добраму хлопчыку. Самаму лепшаму з найлепшых.

Хлопчык вельмі ўцешыўся падарунку. Ён намаляваў бабулі цёплую хустку, маме — святочную сукенку, а тату — паляўнічую стрэльбу. Сляпому дзядулю хлопчык намаляваў вочы, а сваім сябрам — вялізную-вялізную школу.

Але ніхто не мог карыстацца намалёваным. Хустка для быбулі была якануча для мыцця падлогі, а сукенка, намалёваная для маці, аказалася такой крывабокай і мешкаватай, што мама не захацела яе нават памераць. Стрэльба нічым не нагадвала стрэльбы, а

выглядала як звычайная палка. Вочы для сляпога нагадвалі дзве блакітныя кляксы, і ён не мог імі бачыць. А школа, якую так старанна маляваў хлопчык, была такой перакошанай і брыдкай, што да яе баяліся блізка падыходзіць.

На вуліцы паявіліся дрэвы, падобныя да венікаў. Паявіліся коні з драцянымі нагамі, машыны з крывымі калёсамі, хаты з падаючымі сценамі і дахамі набок, футры і пальто, у якіх адзін рукаў быў даўжэйшы ад другога... Паявіліся тысячы рэчаў, якімі нельга было карыстацца. І людзі спалохаліся:

— Як ты мог стварыць столькі дрэннага, самы лепшы з найлепшых хлопчыкаў!

І хлопчык заплакаў. Яму так хацелася зрабіць людзей шчаслівымі. Але ён не ўмеў маляваць і толькі змарнаваў фарбкі.

Хлопчык плакаў так моцна, што яго пачуў самы добры з найлепшых дзядуляў — Дзед Мароз. Пачуў і вярнуўся да яго, і паклаў перад хлопчыкам новы карабок фарбак:

— Але гэта, даражэнькі, звычайныя фарбкі. Але і яны могуць стаць чароўнымі, калі ты гэтага захочаш.

Так сказаў Дзед Мароз і знік.

І хлопчык задумаўся. Як жа ж зрабіць, каб звычайныя фарбкі зрабіліся чароўнымі і каб яны цешылі людзей, а не прыносілі ім няшчасце? Добры хлопчык узяў пэндзаль і пачаў маляваць. Ён маляваў без адпачынку ўвесь дзень і ўвесь вечар. Ён маляваў і на другі дзень, і на трэці, і на чацвёрты дзень. Маляваў, пакуль не скончыліся фарбкі. Тады ён купіў новыя.

Мінуў год... Мінулі два гады... Мінула многа-многа гадоў. Хлопчык стаў дарослым, але па-ранейшаму не пакідаў маляваць. Вочы яго зрабіліся спрытнымі, рукі ўмелымі.

Хлопчык не заўважыў, як стаў сапраўдным мастаком. Ён маляваў ўсё, што было вакол, і тое, што яшчэ ніколі ніхто не бачыў: самалёты, падобныя на вялізныя стрэлы, і караблі, падобныя на самалёты, паветраныя масты і палацы са шкла.

Людзі са здзіўленнем глядзелі на яго малюнкі, але ніхто ўжо не палохаўся. Наадварот, усе радаваліся і захапляліся.

— Якія цудоўныя карціны! Якія цудоўныя фарбы! — казалі яны, хоць фарбы былі самыя звычайныя.

Карціны і сапраўды былі такія прыгожыя, што людзям хацелася іх ажывіць. І вось надышлі шчаслівыя дні, калі намаляванае на паперы пачало пераходзіць у жыццё: і палацы са шкла, і паветраныя масты, і крылатыя караблі...

Так здараецца на белым свеце. Так здараецца не толькі з фарбкамі, але і са звычайнай сякерай або швейнай іголкай, і нават з простай глінай. Так здараецца з усім, да чаго датыкаюцца рукі самага вялікага з найвялікшых чараўнікоў — рукі працалюбівага, настойлівага чалавека.



# Чужыя царвулі

(Балгарская народная казка)

У даўнія-даўнія часы пасябраваў чалавек з сабакам. Пачаў сабака чалавеку аддана служыць, ад злых звяроў ахоўваць.

Так хадзілі яны ўсюды разам — куды чалавек, туды і сабака.

А каб у сабакі ад хады ногі не балелі, пашыў чалавек сабаку такі ж абутак, які сам насіў, — скураныя царвулі.

Неяк летам набегаўся сабака, змучыўся. Спыніўся ён ля ракі, разуўся і апусціў свае царвулі ў ваду. „Няхай паляжаць, адмокнуць“, — падумаў сабака, а сам сеў у цень пад кустом адпачываць.

І задрамаў.

А тут якраз заяц прабягаў. Бачыць — ляжаць у вадзе царвулі. Вакол нікога няма. Сабаку ён і не заўважыў.

Выцягнуў заяц з вады царвулі, нацягнуў на лапы. Туды-сюды па беразе прайшоўся. Цудоўна! Царвулі быццам самі бягуць, па каменьчыках, як па мяккай траўцы ступаюць.

Сабака тым часам прачнуўся. Глядзіць: гэта што такое? Заяц у яго царвулях — скок-скок, скок-скок! Усё далей і далей адыходзіць. Сабака скочыў за зайцам!

— Стой! — крычыць. — Гэта мае! Аддай!

А заяц наўцёкі: вельмі ж яму царвулі спадабаліся.

Уцячы дык ён уцёк, але з таго часу жыцця яму не стала. Раней сабака зайчыкаў не чапаў, а цяпер ён дзень і ноч зайца вынюхвае, свае царвулі вярнуць хоча.

Але ж цяпер, як і дагоніць, дык усё роўна зняць іх з ног не зможа: царвулі тады мокрыя былі, а калі высахлі на заечых лапах, быццам прыраслі, не адарваць. Ды яшчэ горш таго: зайчаняты пачалі радзіцца з цырвулямі на лапах.

Няма больш зайцам спакою — усё жыццё дрыжаць яны ў страху перад сабакамі.

І не думаў заяц, не хацеў, а вось што нарабіў: на ўсё заячае племя бяду сцягнуў. Потым ужо ён і шкадаваў, што на чужыя царвулі пазарыўся, гараваў, ды позна.



# Дагавор

Перад самым Новым годам пайшоў Коля ў лес. Па ёлку. Ідзе і спявае:

— Маленькай елачцы холадна зімой!

Выбраў самую прыгожую елачку і кажа:

— Во! Гэту і вазьму!

— Куды ж ты яе возьмеш? — здзівіўся лес.

— На навагодняе свята, — адказаў Коля. — Мы яе там паставім, упрыгожым і будзем вакол ёлкі карагод вадзіць, спяваць і танцаваць!

— Вось я зараз, — раззлаваўся лес, — цябе тут пастаўлю, упрыгожу і буду вакол цябе карагод вадзіць і спяваць:

Радзіўся хлопчык у горадзе,
і ў горадзе ён жыў!
Зімой і летам стройненькі,
Зялёненькі ён быў!

— Чаму зялёненькі? — разгубіўся Коля.

— Бо так у песні спяваецца! — адказаў лес. — Не дам елку!

— Шкада, так?

— Не шкада! Крыўдна! Як толькі Новы год — усім елкі патрэбны, усім давай, а ад мяне хутка адны палкі застануцца. Гэта правільна? Няправільна. Так нельга!

— Значыць, ты хочаш, — сказаў Коля, — каб на Новы год усе дзеці без ёлак засталіся?! Гэта, патвойму, правільна?

— Гэтага я не казаў! — захваляваўся лес. — Няхай яны Новы год тут у лесе сустракаюць. Няхай вакол лясной елачкі танцуюць і спяваюць:

Маленькай елачцы весела зімой!
Да маленькай елачкі мы
прыйшлі адной!

— Нічога з гэтага не выйдзе, — уздыхнуў Коля. — Малых адных у лес не пусцяць. Давай так дагаворымся — хто Новы год з ёлкай сустракаў, той адразу няхай другую ёлку пасадзіць.

— Не выйдзе! — уздыхнуў лес. — Малыя елак саджаць не ўмеюць. Яшчэ ўверх карэннямі пасадзяць!

— Прыдумаў! — закрычаў Коля. — Малыя потым, калі вырастуць, елкі пасадзяць.

Лес падумаў і згадзіўся. І Коля ад імя ўсіх дзяцей падпісаў з лесам дагавор.

# Маленькія хітруны

Міша і Зоя — брат і сястрычка. Яны добра сябруюць, вельмі любяць тату і маму, хоць іншы раз і засмучаюць іх сваімі ўчынкамі. Нялёгка з імі бацькам. Праўда, Міша і Зоя лічаць, што ім таксама цяжка: туды не хадзі, гэта не рабі... Кожны крок пад кантролем. Хіба ж гэта жыццё?

Аднойчы пасля сур'ёзнай сямейнай размовы Міша і Зоя доўга шморгалі насамі, павяраючы адзін аднаму свае крыўды. Раптам Міша прапанаваў:

— Ведаеш што? Давай падзелім бацькоў: ты будзеш слухацца маму, а я — толькі тату. Усё лягчэй будзе.

**П. Саковіч**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

*　✻　*

— Дзядуля, я калі вырасту, абавязкова буду, як ты, камінарам.

— А чаму іменна ты хочаш быць камінарам?

— Каб дастаць твае акуляры, якія ў цябе ўчора ўпалі ў комін.

*　✻　*

— Ідзі пацалуй дзядулю! — кажа маці сыну.

Паглядзеўшы на вялізную дзедаву бараду і вусы, унук здзівіўся:

— Здаецца, тут няма месца, мама!

## АДГАДАНКА



Знайдзі дарогу да яблычка.

# Пазнаёмімся

*　✻　*

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Шчукіна, 4, кв. 90. Таня Гоберман, вучаніца 5 класа.

*　✻　*

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 165, кв. 7. Наташа Мархель, вучаніца 5 класа.

*　✻　*

БССР, 222660, г. Стаўбцы, Мінскай вобласці, вул. Сацыялістычная, дом 85, кв. 1. Наташа Васільева, вучаніца 8 класа.

**Ул. Мацвеенка**

## ЗАГАДКІ

На спіне прапелер маю,
Быццам Карлсан, я лятаю.
Моцны грукат у вушшу,
Гэта ў небе я вішу.
Адпраўляюся ў палёт,
А імя мне...

*　✻　*

Наведаю ўлетку
Я кожную кветку.
Збіраю нектар.
Найлепшыя лекі
Прыроднай аптэкі
Салодкі мой дар.

*　✻　*

Цыліндровы,
Металёвы,
Не падобны
Да каровы,
Свежы ўдой
У горад возіць.
Як завуць?..

*Адказы: Верталёт, пчала, малакавоз.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**